ЛЁСЫ ЛЮДСКІЯ



Фота Д. Кунстадтара

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

# Не знаць перад карай страху

*29 студзеня 2014 года споўнілася 130 гадоў з дня нараджэння **Антона Луцкевіча** (1884—1942), вялікага беларуса, у многім дзякуючы ідэям і працы якога наша краіна з Паўночна-Заходняга краю і Крэсаў Усходніх ператварылася ў самастойную дзяржаву.*

*Жыццё і дзейнасць Антона Луцкевіча неверагодна багатыя на падзеі, факты, супярэчнасці, прыгоды, сустрэчы, каханне, вандроўкі, творчасць, бяду... Гэта жыццё — раман...*

*Пакуль жа я напісаў апавяданне — твор аб тым, што ў верасні 1939-га Антон Луцкевіч зірнуў у вочы святу і асабістай трагедыі...*

## 1. Трэба ўцякаць?

У жніўні згаданага года, пасля змовы Гітлера і Сталіна, Еўропу чакаў новы палітычны падзел, і няцяжка было здагадацца: першай ахвярай гэтага падзелу стане "роднае дзіця Версаля" — Польская Рэспубліка. Праз нейкі тыдзень пасля змовы, 1 верасня, пачалася вайна, і неўзабаве яна дыхнула і ў віленскія дзверы, канчаткова акрэсліўшы акрэсленае: Вільню забярэ Сталін, нацыянальных дзеячаў чакае пагібель, і таму, каб выжыць, трэба ўцякаць і не толькі з Вільні, а наогул з Заходняй Беларусі.

Нехта так і зрабіў — напрыклад, ксёндз Адам Станкевіч, а некаму, яшчэ задоўга да прыходу бальшавікоў, паспрыялі абставіны. Скажам, у кастрычніку 1936 года загадам Міністэрства асветы дырэктар беларускай філіі дзяржаўнай гімназіі імя Ю.Славацкага Радаслаў Астроўскі быў накіраваны выкладаць матэматыку ў Лодзь у польскую гімназію імя М.Каперніка. Гэтак будучы прэзідэнт БЦР перажыў 1939 год, захаваў уласную свабоду.

А вось Антон Луцкевіч свабоду страціў, бо застаўся ў Вільні... Але чаму застаўся? Чаму не ратаваўся, нават не паспрабаваў пераехаць у тую ж Блізкую Літву, як гэта зрабіў яго вечны недруг ксёндз Адам Станкевіч?

У Коўне жыў даўні прыяцель Антона Луцкевіча, былы дзяржаўны сакратар БНР, архітэктар К.Дуж-Душэўскі — чалавек заможны і дастаткова ўплывовы ў літоўскім грамадстве; вядома, ён дапамог бы і жытлом, і грашыма, і дакументамі... Пазней К.Дуж-Душэўскі даў прытулак сынам Антона Луцкевіча — Юрку і Лявону...

## 2. Дзве прычыны

Звычайна даследчыкі называюць дзве прычыны, якія прымусілі Антона Луцкевіча застацца дома.

Першая — сямейная: старэйшы сын Юрка служыў якраз у польскай арміі, якую вельмі хутка разбілі, і што сталася з жаўнерам Юркам Луцкевічам, было невядома. "Ці жывы, ці паранены, ці ў палоне, ці вяртаецца дадому?!" — так, або прыкладна так, думаў бацька і, не маючы ніякай рады са сваімі думкамі, пастанавіў: трэба сына чакаць у Вільні!

А другая прычына — музей... Антон Луцкевіч з'яўляўся дырэктарам Беларускага музея і не мог без нагляду пакінуць скарбніцу, якая ўзнікла, дзякуючы клопату ягонага старэйшага брата Івана. Ці мог схаваць экспанаты? Зрабілі ж так з Іванам у 1915 годзе перад тым, як Вільню заняла кайзераўская армія — склалі ўсе каштоўнасці ў адзін глухі пакой, а дзверы залажылі цэглай! Але не трэба забываць — тады яшчэ музея не было, існавалі толькі археалагічная і этнаграфічная калекцыі. За чвэрць стагоддзя збор Івана Луцкевіча (сэрца Беларускага навуковага таварыства) ператварыўся ў салідную, з урадавай дапамогай і міжнародным статусам установу, прынятую ў польскі саюз музеяў; фонды настолькі павялічыліся, што марна было і думаць, каб зноў іх змясціць у нейкі адзін глухі пакой.

Падзеі не паўзлі — шалёна ляцелі; не мелася ні часу, ні зручнага памяшкання, ні адданых памочнікаў, таму Антон Луцкевіч і застаўся пры музеі.

## 3. Масонскі цыркуль

Трэба згадзіцца: і першая прычына істотная, і другая таксама!

Аднак жа, думаю, існавала і філасофская акалічнасць, якая закрывала дарогу да ўцёкаў, — жыла ў душы мацнейшая, чым страх за ўласнае жыццё, фатальная ўпэўненасць: Вільню пакідаць нельга! Тут нарадзіліся сыны і пахавана жонка; тут выспела думка пра незалежную Беларусь і накрэсліўся (ці не масонскім цыркулем?) містычны круг, у сярэдзіне якога наканавана застацца...

У маладосці Антон Луцкевіч увагодзіў у віленскую ложу "Еднасць" і на ўсё жыццё засвоіў ці не галоўнае правіла інтэлектуалаў: у момант небяспекі трэба абмежаваць мітуслівыя імкненні!

## 4. «Цень Азэфа»

Ці спадзяваўся на літасць?

З года 1929-га, з ласкі чырвонага Мінска, хадзіў у сацыял-фашыстах і "з'яўляўся" правадыром усіх чыста нацдэмаў і нацфашыстаў, так што на літасць разлічваць не даводзілася!

Для яго, марксіста і сацыял-дэмакрата, Сталін быў рэнегат рэвалюцыі, сучасны Юда, шаленец, адмоўны гістарычны персанаж. У сваім знакамітым артыкуле "Цень Азэфа" Антон Луцкевіч назваў калгасы згубай для народа, а Сталіна — чырвоным Мусаліні; мала таго, параўнаў яго з правакатарам Азэфам! Артыкул, праўда, прайшоў у друку без подпісу, але хіба вялікая праблема для пільнай службы вызначыць аўтарства?!

## 5. Адмаліць «грахі»!

Аднак і без "Ценю Азэфа" абвінаваўчага матэрыялу было хоць гаць гаці! Людзей наогул бралі без ніякага "матэрыялу" (толькі за тое, што яны людзі), а тут — і абвяшчэнне незалежнасці Беларусі, і прэм'ерства ў БНР, і ўдзел у Парыжскай мірнай канферэнцыі... Паспрабуй адмаліць такія "грахі"! І ўсё праўда, бо і абвяшчаў незалежнасць, і ўзначальваў урад, і ездзіў у Парыж...

А ёсць яшчэ і тое, што не рабіў, а прыпісалі: рабіў — і ўсё тут, і ніяк не адкруцішся! А для сталіністаў зазвычай прыпісанае з'ўлялася большай праўдай, чым сама праўда!

## 6. Грошы атамана Пятлюры

13 кастрычніка 1927 года газета "Дзеннік Віленскі" пісала, што Антон Луцкевіч знаходзіўся ў Парыжы за грошы, якія атрымаў ад атамана Пятлюры, залажыўшы яму лясы Беларускай Рэспублікі. Вось так! Проста царскую ўладу меў лідар БНР!

Уяўляю радасць ягоных ворагаў, якія чыталі гэта паведамленне, баязліва падпісанае літарай Z. Ніякіх доказаў Z не прывёў, ніякіх актаў аб закладзе лясоў не надрукаваў, а таго адпаведнай публіцы і не трэ было! Галоўнае — гостры, як цвік, данос, у якім — і цесная сувязь з ворагам працоўнага народа Пятлюрай, і неверагоднага маштабу раскраданне прыродных багаццяў! Лепшага "матэрыялу" для дыскрэдытацыі нацыянальнага кіраўніка і не прыдумаць!

## 7. Тэлеграма кайзеру Вільгельму

Так пісалі ў "Дзенніку Віленскім" чужыя, аднак жа і свае не маўчалі. У 1933 годзе Кастусь Езавітаў даводзіў у часопісе "Беларуская Школа ў Латвіі", што ў ліку іншых палітыкаў і Антон Луцкевіч горача настойваў на тым, каб ад імя Рады Рэспублікі ў 1918 годзе адбіць у Берлін вітальную тэлеграму кайзеру Вільгельму. Усім вядома было, а ў першую чаргу самому К.Езавітаву, што Антон Луцкевіч і блізка не стаяў каля той тэлеграмы, аднак...

У Менску якраз раскручвалася гучная справа "Беларускага нацыянальнага цэнтра" (БНЦ), які, з чарговай прыдумкі АДПУ, быў створаны, вядома ж, ім, Антонам Луцкевічам!

І тут пры ўсёй павазе да К.Езавітава, значнага нашага нацыянальнага дзеяча, хочаш не хочаш, а падумаеш: надта ж "своечасова" падкінуў ён сваю мемуарную інфармацыю пра "стваральніка" БНЦ: "Паны-таварышы, звяртаю ўвагу, ён яшчэ і кайзера вітаў!"

## 8. Тайная служба

Машына гісторыі рухаецца не па дарогах — па чалавечых душах...

17 верасня 1939 года Чырвоная армія зрабіла рашучы крок, перайшла ўсходнюю польскую мяжу і праз два дні без бою ступіла на віленскі брук.

За войскам, як гэта заўсёды бывае, рухалася тайная служба, і трэба заўважыць: сталінская тайная служба, бадай, адзіная структура ў СССР, якая дзейнічала без збою.

Апынуўшыся ў Вільні, чырваназорныя апрычнікі не марудзілі — не мінула і два тыдні, як разабраліся ў абстаноўцы.

## 9. «Агент «Двуйкі»

Ужо 30 верасня начальнік адміністрацыйнага аддзела часовага кіравання Віленскай акругі палкоўнік Пятроў (прозвішча, дарэчы, як на заказ) падпісаў ордар №82: малодшаму лейтэнанту А.Гаўрыленку даручалася арыштаваць Антона Луцкевіча і зрабіць у ягонай кватэры (вуліца Піўная 2, кв.8) вобыск.

Тады ж, 30 верасня, палітрук Раброў склаў пастанову; гострым алоўкам на ўвесь шыракалінейны аркуш палітрук махануў, што Антон Луцкевіч — агент "Двуйкі" (2-га аддзела генштаба Войска Польскага) і кіраўнік контррэвалюцыйнай арганізацыі "Беларуская сялянская дэмакратыя", а раз так, высноваў служака, то згаданага грамадзяніна ў якасці абвінавачанага трэба ўзяць пад варту... Раброў дадаў, што Антон Луцкевіч яшчэ і кіраўнік "Беларускай сялянскай дэмакратыі", і такім макарам палітрук зляпіў новую з прыдатнай назвай антысавецкую арганізацыю.

## 10. Таксама п'еса

Атрымаўшы ад Пятрова і Раброва "юрыдычнае" забеспячэнне, малодшы лейтэнант А.Гаўрыленка 30 верасня на чале адпаведнага эскорту і заявіўся на вуліцу Піўную...Ператрус прайшоў, як мае быць; гаспадар кватэры ніякіх скаргаў не выказаў, што было і адзначана ў пратаколе вобыску.



АНКЕТА АРЕСТОВАННОГО

1. Фамилия Луцкевич
2. Имя и отчество Антон Иванович
3. Дата рождения 30 января 1884
5. Местожительство (адрес) гор Вильно
6. Профессия и специальность научный работник
7. Место службы и должность Директор белорусского музея в Вильно
10. ... служащий
11. Образование высшее

Дарэчы, пры гэтай працэдуры прысутнічалі персанажы, камічныя прозвішчы якіх прымусілі мяне ўспомніць герояў Гогаля і Францішка Аляхновіча: у Гогаля былі Добчынскі і Бобчынскі, у Францішка Аляхновіча — Пышка і Шышка, а ў сталінскага А.Гаўрыленкі дзейнічалі Ластушкін і Пластушкін! Што зробіш, таксама п'еса, толькі зусім невясёлая...

Дык вось, у прысутнасці Ластушкіна і Пластушкіна А.Гаўрыленка ўпісаў у пратакол вобыску пункты: 1.Розная перапіска; 2.Вайсковы білет №116; 3.Пашпарт №517139; 4. 24 злотыя; 5.Два фотаздымкі Антона Луцкевіча і ягонага сына; 6.Бумажнік.

## 11. Ліст прафесара А.Фляроўскага

Што да першага пункта, то, трэба думаць, гэту "розную перапіску" пазней чэкісты знішчылі, палічыўшы яе неістотнай для сваіх фабрыкацый.

У следчай справе Антона Луцкевіча, якая знаходзіцца ў Асобым архіве ў Вільні (фонд К-1, вопіс 58, справа Р-11794), калі не памыляюся, захавалася толькі некалькі пісьмаў, сярод якіх — ліст прафесара А.Фляроўскага з Прагі. Відаць жа, калі з Прагі, то і пакінулі як сведчанне кантактаў з асяродкам беларускай эміграцыі!

Прафесар А.Фляроўскі вывучаў спадчыну Ф.Скарыны і ў 1936 годзе зрабіў адкрыццё, што Ф.Скарына з 1534-га па апошні свой 1551 год працаваў у Празе каралеўскім садоўнікам. Таксама ж прафесар вывучаў дзейнасць кнігавыдаўцоў Мамонічаў, і Антон Луцкевіч 22 ліпеня 1938 года даслаў яму новыя звесткі пра Мамонічаў. А.Фляроўскі адказаў праз паўтара месяца — 8 кастрычніка (гэты ліст і ёсць у следчай справе); прафесар дзякаваў за звесткі і прасіў перадаць паэту Хведару Ільяшэвічу, які збіраў матэрыялы аб друкарні Мамонічаў, свае выпіскі пра гандлёвыя сувязі Мамонічаў з Прагай...

## 12. Фігурная крэска

У другім пункце сказана пра вайсковы білет — дакумент атрыманы 1 кастрычніка 1923 года, і ў ім адзначана, што родная мова Антона Луцкевіча — польская, а наогул жа ён валодае расійскай, нямецкай і французскай (заўважу: ведаў латынь і грэчаскую). Упэўнены: Антон Луцкевіч заявіў пісару, што яго родная мова — беларуская, але ў эндэцкую пару маладой Польшчы такія заявы ў дзяржаўных установах звычайна ігнараваліся. А вось у пашпарце, выданым 26 лютага 1929 года, падкрэслена: акрамя польскай, французскай, расійскай і нямецкай уладальнік дакумента валодае таксама і беларускай мовай!



Праўда, у графе "нацыянальнасць" не пазначана — "беларус", аднак жа і не напісана — "паляк"; проста стаіць фігурная крэска — мусіць, як знак пагаднення: калі нельга паставіць "беларус", то не трэба ставіць і "паляк"!

## 13. 24 злотыя

Здзіўляе чацвёрты пункт — падчас арышту ў Антона Луцкевіча было толькі 24 злотыя! Дырэктар Беларускага музея жыў небагата; "матэрыяльнае жыццё Ваша далёка не зайздроснае", — так "даражэнькаму дзядзьку Антону" пісаў з Прагі паэт Уладзімір Жылка.

У адрозненне ад таго ж Р.Астроўскага, Антон Луцкевіч вялікіх фінансаў ніколі не меў; згаданая ж сума — сведчанне проста галечы!

А.Гаўрыленка ўпісаў у пратакол і бумажнік — пэўна ж, пусты, бо канфіскаваныя злотыя хутчэй за ўсё з гэтага бумажніка. Відаць жа, і нястача капіталу паўплывала на тое, што Антон Луцкевіч застаўся ў Вільні.

## 14. Прапанова Р.Астроўскага

У снежні 1933 года Р.Астроўскі раптам прапанаваў зменшыць месячны заробак дырэктару Беларускага музея з 420 да 360 злотых. Матэматык Р.Астроўскі ўсё рабіў з намерам і, каб ён быў рыцарам, то на сваім шчыце абавязкова накрэсліў бы: "Лічбы не прызнаюць паэзіі!" Але што такое 420 злотых у 1930-я гады?

Добрыя грошы, за іх можна было ці не пяць коней купіць! Праўда, Антон Луцкевіч такога заробку не меў і, каб паказаць, што Р.Астроўскі хлусіць, падрыхтаваў даведку, паводле якой за працу ў музеі на працягу 1933 года штомесяц атрымліваў 150 злотых, а ў снежні наогул займеў адно 60 злотых (недаплачаныя 90 яму вярнулі толькі праз пяць месяцаў — 13 мая 1934 года). Выходзіла, што зарплата дырэктара Беларускага музея была ніжэйшай, чым нават сярэдні месячны заробак, які складаў на той час прыкладна 230—250 злотых!

Р.Астроўскі разумеў: на гэта ніхто асаблівай увагі не зверне, нават сябры спачуваць не будуць. Мэта ў Р.Астроўскага была іншая: паказаць, што лідар нацыянальнага адраджэння (не сакрэт — Р.Астроўскі прагнуў быць лідарам сам) працуе толькі за плату; тое, што гэта плата маленькая, толькі на пражыццё, разбірацца не будуць, аднак запомняць — без грошай Антон Луцкевіч за справу не бярэцца!

На пачатку 1930-х кампанія па дыскрэдытацыі Антона Луцкевіча набірала абароты, у ёй удзельнічала АДПУ, дэфензіва і... вядомыя беларускія дзеячы.

## 15. Фота аднаго з сыноў

У пятым пункце пратакола вобыску адзначана канфіскацыя дзвюх фатаграфій — фота гаспадара кватэры і фота аднаго з сыноў, але не сказана якога — старэйшага Юркі, які (памятаем) служыў у арміі, ці малодшага Лявона?

Гісторык Анатоль Сідарэвіч параіў электронную копію фотаздымка невядомага мне юнака паслаць у Вільню ўнучцы Антона Луцкевіча Алесі, што я і зрабіў. Спадарыня Алеся адказала імгненна: "Гэта мой тата — Юрка Луцкевіч!"

Але вось пытанне: чаму А.Гаўрыленка, далучыўшы да справы фатаграфію Юркі, не далучыў туды і фота Лявона? Толькі таму, што Юрка знаходзіўся ў арміі, а Лявон быў дома? Ці проста Лявонавай картачкі не знайшлося?

Магчыма, неістотная, аднак жа загадка...

## 16. Спакой інтэлектуала

У той жа дзень, 30 верасня, А.Гаўрыленка напісаў рапарт начальніку аператыўнага аддзялення старшаму лейтэнанту Яроміну; у рапарце падкрэслена: Антон Луцкевіч дастаўлены ў турму (удакладню — у Лукішкі), яго дакументы канфіскаваны, у кватэры ёсць дзве шафы рускай і беларускай літаратуры — дарэчы, пра польскія кнігі ў дакуменце ні слова, нібыта іх і не было!

А.Гаўрыленка адзначыў (магчыма, з ноткай захаплення), што пры арышце Антон Луцкевіч паводзіў сябе спакойна. Чэкіста ўразіў спакой арыштаванага — не знаў служака, што гэта спакой інтэлектуала, вольнага муляра, беларускага патрыцыя, які пастанавіў: ягонай плахай павінен стаць віленскі парог!

У рапарце адзначана, што і сям'я паводзіла сябе стрымана. Антон Луцкевіч жыў удаўцом, жонка спачыла яшчэ ў 1929 годзе, значыць, пад сям'ёй трэба разумець толькі малодшага сына Лявона. А можа, яшчэ нехта знаходзіўся ў кватэры №8, і таго чалавека таксама прылічылі да сям'і?!

## 17. Заява следчаму Панову

Па арышце мінула дзесяць дзён, і, вядома ж, да лукішскага вязня Антона Луцкевіча дайшла навіна, што "чырвоны Мусаліні" перадаў Вільню Літве, таму ўсе бальшавіцкія ўстановы (перш за ўсё — турмы) павінны быць вывезены ў БССР.

Так ён апынуўся ў Вілейцы, а тады ўжо і ў Мінску. Надзея назаўсёды застацца ў Вільні — спачыць у ёй! — не спраўдзілася...

У "Анкеце арыштаванага" за 9 лістапада 1939 года сказана, што ён — беспартыйны і не мае падданства, а ў такой жа анкеце за 14 студзеня 1941 года з'явілася ўдакладненне — тут ужо названы былым сацыял-дэмакратам і былым грамадзянінам Польшчы. Аднак у выпісцы з пратакола "Особого Совещания", датаванай 14 чэрвеня 1941 года, ён, стваральнік першай беларускай партыі і першай беларускай дзяржавы, зноў і беспартыйны, і без падданства; дарэчы "Совещание" прызначыла яму восем гадоў лагера, з якіх вытрымаў толькі два з паловай...

9 лістапада 1939-га абвясцілі пастанову, змест якой сведчыў, што ён, Антон Луцкевіч, арганізоўваў узброеную барацьбу супраць Кастрычніцкай рэвалюцыі і супрацоўнічаў з "Двуйкай". Праз дзесяць дзён, 19 лістапада, на сваім першым допыце заявіў следчаму Панову: так, спрабаваў арганізаваць супраць савецкай улады ўзброенае змаганне, але агентам польскай выведкі не быў!

Заява празрыстая: я — змагар, а не шпік, таварышы сталіністы!

## 18. Зладзейства

Следчыя запісы грузнелі, складаліся ў тамы, а замест "віленскіх" пятровых, рабровых, яроміных і гаўрыленкаў з'явіліся "мінскія" пановы і ліфшыцы.

І — што цікава! — "мінскія" падлавілі "віленскіх" на зладзействе:

*"АКТ*

*Мы, нижеподписавшиеся ст. следователь 3 отд. УГБ НКВД БССР Панов и нач. следчасти 3 отд. УГБ НКВД БССР Лифшиц, составили настоящий акт о том, что при поступлении в 3 отдел УГБ следдела на обв. Луцкевича А.И. не обнаружены польские деньги в сумме 24 злота, изъятые при обыске у Луцкевича А.И. согласно протоколу обыска, о чем и составлен настоящий акт.*

*Подписи: ст. следователь 3 отд. УГБ Панов.*

*Нач. следчасти 3 отд. УГБ Лифшиц.*
*17 ноября 1939 года, г. Минск".*

*(Асобы архіў у Вільні, фонд К-1, вопіс 58, справа Р-11794, том 1, старонка 11).*

Аказваецца, тыя няшчасныя 24 злотыя, зафіксаваныя ў чацвёртым пункце пратакола вобыску, так і не "даехалі" да Мінска! Перад тым, як Антона Луцкевіча замардаваць, яго абакралі...

Але праз 50 гадоў, у гарбачоўскі час, з'явілася магчымасць вярнуць скрадзенае!

## 19. Літоўскія пракуроры

31 сакавіка 1989 года пракурор аддзела пракуратуры Літоўскай ССР, саветнік юстыцыі П.Новікаў падрыхтаваў заключэнне, згодна з якім Антон Луцкевіч падпадаў пад дзеянне артыкула 1 Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 16 студзеня 1989 года "Пра дадатковыя меры па аднаўленні справядлівасці ў адносінах да ахвяр рэпрэсій у 30—40-я і на пачатку 50-х гадоў". У той жа дзень, 31 сакавіка, гэта заключэнне зацвердзіў пракурор Літоўскай ССР, дзяржаўны саветнік юстыцыі 3-га класа В.Бараўскас і падпісаў пасведчанне аб рэабілітацыі.

У пасведчанні гаворыцца: паводле пастановы Савета міністраў Літоўскай ССР №446 ад 26 верасня 1955 года рэабілітаванаму выплачваецца заробак за два месяцы па месцы работы да арышту (у выпадку ягонай смерці выплату можа атрымаць сям'я).

Значыць, калі б Антон Луцкевіч дажыў да рэабілітацыі 1955 года, то за доўгія гады пакут атрымаў бы ажно два месячныя заробкі! Але дзе атрымаў? Па месцы работы — то бок у Беларускім музеі, якога даўно ўжо не існавала!

А яшчэ ў паперы Бараўскаса гаворыцца: паводле рэспубліканскай пастановы №197 ад 9 чэрвеня 1984 года рэабілітаваны (ці яго нашчадкі) мае права на вяртанне канфіскаванай (чытай: скрадзенай) маёмасці.

Словам, тады, у 1989 годзе, Юрка і Лявон Луцкевічы мелі юрыдычную падставу атрымаць не толькі пусты бумажнік, але і 24 злотыя.

## 20. «Слава табе, Армія...»

"...Слава табе, Армія, Армія Чырвоная!" — шчыра прамаўляў Янка Купала і не памыляўся ў сваім пафасе — без Чырвонай Арміі Заходняя Беларусь не ўз'ядналася б з БССР.

Аднак жа трэба ведаць: гэта была галодная армія; у ёй служылі воіны, якія дасыта наеліся толькі ў Заходняй Беларусі! Траляліся такія небаракі-ваякі, якія, напрыклад, ніколі не елі смятану, нават не бачылі яе (у калгаснай старане такога прадукту проста не было), але 17 верасня, дзякаваць Богу, упершыню разгавеліся і смятанай.

Сталінская кавалерыя ехала па польскім бруку на такіх худых конях, што тыя ледзьве варушылі капытамі і, здаралася, падалі і здыхалі проста пры дарозе...

Майму бацьку ў 1939-м было восем, і ён добра памятае, як чырвонаармейцы частавалі дзяцей махоркай — скручвалі хлопчыкам цыгаркі і давалі закурыць.

Але найбольш уражваў неахайны выгляд чырвоных салдат.

— На гімнасцёрках іхніх наліпла на два пальцы сажы! А за адным байцом па гразкай вуліцы цягнулася разматаная абмотка! — успамінаў бацька.

Але чырвоныя саладаты ўз'ядналі нашу Беларусь, таму 17 верасня — свята, той вялікі дзень, пра які марылі і маладыя камуніст Максім Танк, і сталы антысталініст Антон Луцкевіч.

## Пасляслоўе

Мара ажыццявілася, але за гэта Антону Луцкевічу і яго паплечнікам давялося заплаціць уласным жыццём...

У маладосці ён пакінуў губернскі Мінск, а ў 1939-м яго прывезлі ў савецкі Мінск — сталіцу якой-ніякой, але беларускай дзяржавы — БССР.

Яго дапытвалі фармальныя прадстаўнікі гэтай дзяржавы — супрацоўнікі НКУС БССР; яго абвінавачвалі паводле артыкулаў Крымінальнага кодэкса БССР!

Некалі ў лукішскім астрозе, падчас працэсу над "Грамадой", ён пераклаў радкі рымскага паэта Публія Авідзія Назона:

*Першы быў век залаты,*
*калі без ніякай прынукі*
*З добрае волі сваёй шанавалі*
*і вернасць, і праўду,*
*Страху прад карай не зналі, не чулі*
*слоў грозных законаў,*
*Дый без апекі суддзі былі тады*
*людзі бяспечны.*

Калі што і згадваў з паэзіі ў сталінскай катоўні, то, мяркую, згадваў гэтыя радкі, бо яны настройвалі на патрэбны філасофскі лад — не знаць перад карай страху!

Ён ведаў, што бальшавіцкі суд — "Особое Совещание" — гэта адсутнасць суда; ведаў, што застанецца "без апекі суддзі".

У такія хвіліны патрыцыі чытаюць рымскіх паэтаў.

---



*Кастусь*
*ЦВІРКА*

## Найпершая святыня

*Не давайце святыні псам!*
***Уладзімір Караткевіч "Багдановічу"***

*Мову родную ў роднай краіне*
*Псы мяшаюць з гразёй тут і там.*
*Мова — першая наша святыня,*
*Не давайце святыню псам!*

## Пра самае дарагое

***З Дзмітра Паўлычкі, героя Украіны***

*Манголія. Усюды бачу юрты,*
*Чырвоных коней ходзяць табуны.*
*Жывуць манголы там, а не манкурты*:*
*Шануюць слова роднае яны.*

*Сказаў ім калісь Бог: "Я вам паўсвета,*
*Я вам Еўропу й Азію даю,*
*А вы аддайце толькі мне за гэта*
*Для песень мову звонкую сваю".*

*Яны ў адказ: "Ты што прыдумаў, Божа!*
*Не трэба нам ні Азій, ні Еўроп!*
*Хто перадаць без мовы роднай можа*
*Туману ўздыхі ці дажджоў галоп?*

*Яна — наш дар, скарб найдарожшы люду,*
*У цемры — сонца, свет наш. Выбачай,*
*Вялікі Бог, усемагутны Буда:*
*Усё бяры, ды мовы не чапай!"*

*А вы, адукаваныя маголы***
*Маёй многапакутнае зямлі,*
*На глум і здзек усё — і нашы школы,*
*І мову родную, манкурты, аддалі!*

*Вы марыце, без сэрцаў чынахопы,*
*Што вам за здраду, за імпэт такі*
*Усё будзе — нават гузічкі з Еўропы*
*Ды з Азіі шаўковыя шнуркі.*

*Што ж, зіхаціце імі ў звоне чарак,*
*Ды толькі помніце: надыдзе час,*
*І люд, якому ўсселі вы на карак,*
*Бы смецце, пазмятае з крэслаў вас!*

1984.

** Манкурт — у рамане "И дольше века длится день" Чынгіза Айтматава раб, які забыў Радзіму, бацькоў і родную мову.*
*** Магол — колішні тытул мангольскіх уладароў, прыгнятальнікаў народа.*

ШОУ-БІЗНЕС

## Літоўскаму гурту Biplan даслалі 80 тэкстаў на беларускай мове

*Два тыдні таму папулярны літоўскі гурт Biplan абвясціў, што шукае беларускі пераклад для свайго хіта "Amore". На прапанову адгукнуліся больш за 80 чалавек.*



— Вялікі дзякуй усім удзельнікам конкурсу! Я не чакаў такой хвалі тэкстаў, — *прызнаецца вакаліст гурта Макс Мельман.* — Я папрасіў дапамагчы сваіх беларускіх сяброў, але ўсё роўна некалькі начэй я практычна не спаў — сядзеў і чытаў. Я ўжо амаль вывучыў беларускую мову! — смяецца ён.

У выніку музыканты Biplan спыніліся на некалькіх варыянтах, але лепшы з іх будзе абраны ў студыі падчас запісу беларускай версіі песні "Amore". Адбудзецца гэта днямі, а імя аўтара перакладу будзе абвешчана на наступным тыдні разам з прэм'ерай абноўленай кампазіцыі ў інтэрнэце.

Нагадаем, што пераможца конкурсу стане афіцыйным сааўтарам беларускай версіі "Amore" і сустрэнецца з гуртом. Песня "Amore" атрымала афіцыйны прыз за найбольшую колькасць ратацый у Літве па выніках 2013 года, а сам калектыў — "Лепшы поп-гурт" на галоўных літоўскіх музычных узнагародах.

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## Колькі ветэранаў жыве ў Беларусі?

*У нашай краіне вельмі часта кажуць: мы клапоцімся пра ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны. А ёсць дакладныя лічбы, колькі ветэранаў сёння жыве ў Беларусі?*

**Валярына ШУГАЕВА, Мінскі раён.**

Па дадзеных на 1 студзеня гэтага года, у Беларусі пражываюць 22.086 ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны.

Па словах галоўнага спецыяліста аддзела па справах ветэранаў і інвалідаў Міністэрства працы і сацыяльнай абароны **Таццяны Максімавай**, на 1 студзеня гэтага года сярод 15.184 удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны 4192 чалавекі з'яўляюцца інвалідамі.

У Беларусі ў цяперашні час пражываюць чатыры Героі Савецкага Саюза, якія атрымалі гэта высокае званне ў гады Вялікай Айчыннай вайны. У Мінску жыве адзіны ў краіне кавалер ордэна Славы трох ступеняў **Віктар Дзмітрыевіч Веташкін.**

У Беларусі на 1 студзеня было 95 чалавек, якія бралі ўдзел у складзе спецыяльных фарміраванняў у размініраванні тэрыторый і аб'ектаў пасля вызвалення ад нямецкай акупацыі ў 1943—1945 гадах. Як паведамляе belta.by, у краіне жывуць 695 чалавек, якія працавалі на прадпрыемствах, ва ўстановах і арганізацыях Ленінграда ў перыяд блакады і ўзнагароджаны медалём "За абарону Ленінграда", а таксама знакам "Жыхару блакаднага Ленінграда".

ЗА КАДРОМ

## Хочу смотреть спортивные передачи!

До 20 января этого года практически все спортивные мероприятия транслировались по каналу "Беларусь 2". Их могло смотреть практически все население нашей страны, поскольку этот канал транслируется и по кабельному, и по эфирному телевидению.

А сейчас все спортивные мероприятия транслируются по каналу "Беларусь 5", который идет далеко не у всех. А кроме спортивных передач, на мой взгляд, больше по нашему телевидению и смотреть нечего. Мы дозвонились до телерадиообъединения в Минске. Там ответили: мол, хотите смотреть — подключайте "Залу" (через телефон) или кабельное ТВ. Но к каждому дому ведь кабель не подведешь, да и телефоны не у каждого есть...

**Леонид ХАЛИМОНЕНКО.**

*г.Лида.*

ПРАПАНОВА

## Як звярнуцца да незнаёмай жанчыны?

Проста зварот "жанчына" гучыць, на маю думку, неяк непрыгожа і нават груба. Кожны народ мае свае асаблівасці ў звароце адзін да аднаго: гаспадар, судар, сэр, сіньёр, мадам, фраў, фрэкен, лэдзі, джана, ханум, ата, ага, сан, пані, місіс, мэм і гэтак далей. А ў Беларусі падобнага няма. Слова "таварыш" яўна не да места, якія ж мы "таварышы"? Мы ж няроўныя — рабочыя і дырэктар ці чыноўнік!

Калісьці ў Вярхоўным Савеце дэпутаты з фракцыі БНФ на чале з Зянонам Пазьняком называлі калег, прэзідэнта, прэм'ера *"спадар".* Яны моршчыліся, але ж не пратэставалі.

Прапаную ўвесці звароты "спадарыня" і "спадар" у наш штодзённы ўжытак!

**М.М.БУЙНІЧ, пенсіянер.**

*Гомель.*



*На гэтым месцы рэдакцыя мела намер паставіць сенсацыйны матэрыял. Такі, які перадаваўся б з рук у рукі са словамі: "А ты чытаў?.."*

*На жаль, учора сярод аўтарскіх лістоў такога адметнага матэрыялу мы не знайшлі.*

*Шаноўныя чытачы! Вы жывяце ў самых розных куточках краіны. І на вашых вачах адбываюцца незвычайныя падзеі, сітуацыі, гісторыі. Вам становяцца вядомы факты, ад якіх, як кажуць, мурашкі па целе.*

*Аператыўна інфармуйце "Народную Волю" па тэлефоне +375-17-328-69-04. Дасылайце лісты.*

*Для "Народнай Волі" няма забароненых тэм.*

*Як няма недатыкальных асоб.*

*Цікавую газету будзем рабіць разам!*

*Рэдакцыя.*

НЕ МОГУ МОЛЧАТЬ!

## Дворец искусства: мед вместо картин

Весь январь по телевидению шла уже поднадоевшая реклама, призывающая посетить Дворец искусства с целью покупки меда и товаров из Индии.

Мед — это, конечно, хорошо, но только при чем здесь Дворец искусства, в котором, как я полагаю, должны выставляться и продаваться картины наших художников? Ведь творцам надо на что-то жить, а плоды их творчества могут долгое время украшать интерьеры домов минчан и гостей столицы.

Я понимаю, что в основе данной выставки-ярмарки лежит коммерческая выгода. Но разве можно все измерять деньгами и продажу потребительских товаров делать важнее продажи картин?

**Розалия РУБИНЧИК.**

*Минск.*

НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

*Ну і снег, мяккі снег,*
*Белая мяцеліца...*
*Будзе свой Валенса Лех —*
*Тады нешта зменіцца.*

**Андрэй ЗАНЬКО.**

ХОЧУ СКАЗАТЬ...

## Ну разве это не прелести жизни?



Последний месяц зимы. По утрам легкий морозец, днем воздух прогревает солнышко и совсем хорошо. Как не прокатиться по блестящей голубой лыжне, насладиться завораживающей тишиной зимнего леса и парков.

Любителей зимнего отдыха у нас немало. Преимущества такого отдыха бесспорны, ведь зимние прогулки — самые оздоровительные и закаливающие. Движения на свежем воздухе приносят бодрость, создают радостное настроение, помогают хотя бы на время забыть повседневные проблемы, несмотря на то, что они растут как снежный ком.

Очень хорошо, что многие родители предпочитают отдыхать вместе с детьми, прививая им любовь к зимним видам спорта, помогая растить будущих спортсменов... К слову, пожелаем нашим олимпийцам успехов в Сочи!

И вот еще пара слов о любителях подледного лова, ведь это тоже хороший, полезный вид отдыха! Согласитесь, что может быть вкуснее свежезапеченного леща, судака или наваристой ухи! Не хуже, чем коньячок под шашлычок!

Но даже если всего вашего улова не хватит и кошке на обед — невелика беда! Ведь у вас был день на свежем воздухе, ваш глаз радовала белоснежная гладь замерзшего озера, вы отдохнули от городского шума и суеты. Ну разве это не прелести жизни?..

**С уважением —**

**Юрий ЯСИНСКИЙ, ветеран труда и спорта.**

ВІНШУЕМ!

# Першапраходца

## *Міколу Савіцкаму — 80*



У юбілейны дзень 4 лютага ў кватэры гэтага незвычайнага чалавека не сціхалі званкі: мноства сяброў і знаёмых не забыліся пра адметную дату, зычылі доўгіх год і плёну ва ўсіх справах. Бо ён — першапраходца не толькі ў сваёй прафесіі.

Імя прафесара Міколы Савіцкага добра вядома і ў коле навукоўцаў эканамічнага профілю, і сярод тых, хто напрыканцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя ўліўся ў плынь Нацыянальнага адраджэння, адшукаў сваю Беларусь.

Працоўная ж біяграфія Міколы Савіцкага звязана з Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэтам. Сюды, у тагачасны Інстытут народнай гаспадаркі, ён паступіў пасля школы. Сюды вярнуўся пасля аспірантуры ў Маскве. Там абараніў кандыдацкую дысертацыю па машыннай апрацоўцы эканамічнай інфармацыі, дысертацыя ў гэтай галіне была першай у Беларусі. У 1982 годзе атрымаў званне прафесара на кафедры інфарматыкі і вылічальнай тэхнікі, якой ён загадваў амаль 20 гадоў. Абраны правадзейным членам (акадэмікам) Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі, мае больш за 100 навуковых прац, а таксама шэраг публіцыстычных артыкулаў, прысвечаных адраджэнню беларускай мовы і культуры.

Цікава, што ў сваёй галіне Мікола Савіцкі першым у Беларусі стварыў комплекс навукова-метадычнага забеспячэння вучэбнай дысцыпліны "Вылічальныя машыны і праграмаванне" для эканамічных ВНУ. Аднайменны падручнік вытрымаў два выданні. Сааўтар першага навучальнага дапаможніка для курса "Машынная апрацоўка эканамічнай інфармацыі ў галінах народнай гаспадаркі", выдаў падручнік для тэхнікумаў "Техника вычислений и механизация учета", "Руска-беларуска-англійскі слоўнік па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы", дапаможнікі на беларускай мове па профільных вучэбных прадметах, "Тлумачальны слоўнік па інфарматыцы". Тут я спыню пералічэнні, бо яны будуць занадта доўгія...

Толькі зазначу, што спадар Мікола адным з першых яшчэ ў 1989 годзе пачаў выкладаць інфарматыку і вылічальную тэхніку па-беларуску, ягоны прыклад пераймалі шматлікія выкладчыкі з розных галін ведаў. Аднак беларускамоўнае выкладанне інфарматыкі ў яго ўніверсітэце, і не толькі там, было спынена ў 2001 годзе. З адзіным на той час беларускамоўным прафесарам на кафедры інфармацыйных тэхналогій не прадоўжылі кантракт. Але навукоўца не прыпыняе творчай працы, друкуе ў Расіі вучэбныя дапаможнікі для студэнтаў ВНУ...



І ўсё гэта — пры адначаснай актыўнай грамадскай працы па Нацыянальным адраджэнні. З 1992-га па 1997 год ён узначальваў Мінскую гарадскую раду ТБМ імя Ф.Скарыны, дагэтуль з'яўляецца сябрам Рэспубліканскай рады. Яго пазнаюць на з'ездах, мітынгах, шэсцях, канферэнцыях, "круглых сталах", дзе ідзе размова аб беларускіх праблемах.

Дадам некалькі штрыхоў да яго жыццяпісу. Мікола Іванавіч, які нарадзіўся ў фальварку Гарадок (цяпер Глыбоцкі раён), так згадвае свой пачатак. У сям'і было пяцёра дзяцей. Мікола, старэйшы за ўсіх, даглядаў меншых братоў і сясцёр, бо бацькі былі пастаянна ў працы. Жылі бедна, аднак усё ж вырашылі ставіць сваю хату. Будавалі пасля вайны ўжо пяцісценку, ды да канца не дабудавалі: бацька памёр у 55 гадоў. У Міколы Іванавіча ўсё не знікае адчуванне, што іх печку клаў ці не бацька Васіля Быкава — Гарадок стаяў блізка ад Бычкоў.

Тады ён яшчэ не ведаў, што неўпрыкмет спрычыніцца да беларускага пісьменства ў прасторавай акалічнасці, яно адкрые яму шлях у Адраджэнне. Юнак з увагай слухаў аповеды старэйшых людзей пра землякоў, якія потым стануць славай Беларусі. Бабуля Марфа расказвала, як яна калісьці танцавала кадрылю з самім Ігнатам Буйніцкім. А маці Надзея жыла больш за 90 гадоў і нават ужо ў паважаным узросце хадзіла на мітынгі. Калі ўжо не магла, то пыталася ў сына: "Ну і калі мы ўжо дойдзем да Беларусі?"

На пытанне, як у яго пачынаўся гэты шлях, ён прыгадвае Маскву, дзе стараўся пазбавіцца беларускага акцэнту. Напачатку яму было сорамна, што "не такі", як усе, у Белакаменнай. А потым, калі апынуўся ў Чэхіі, то было ўжо сорамна, што не ведае сваёй Радзімы... За суседнім сталом працаваў чэшскі інжынер, прафесар Гіб — высокаадукаваны чалавек, які стажыраваўся ў Англіі. Той ведаў шмат чаго і пра чэшскія, і пра звязаныя з яго краінай беларускія акалічнасці — пра БНР, пра Забэйду-Суміцкага... І беларускі хлопец прыняў на ўсё астатняе жыццё адзінае рашэнне: сваё, роднае — гэта не сорам, гэта — гонар. І любіць і ведаць сваё — пачэсна. Уласнае Міколава адраджэнне пачало набываць сілу.

Я пазнаёмілася з Міколам Савіцкім на пачатку 1990-х на шматлікіх мітынгах дэмакратычнай грамадскасці, мне надзвычай спадабаўся гэты чалавек, які без аглядкі на свой статус загадчыка кафедры самага папулярнага тады ўніверсітэта быў запалены бунтарскай энергіяй пераўтварэнняў. Гэта было сугучна з адчуваннямі многіх, бо беларусы — пакорныя толькі да пары. І вось ужо больш за 20 гадоў мы, у нялёгкіх варунках, апантана робім агульную нацыянальную справу — асветніцтва. Камітэт ушанавання Мінскага культурна-асветнага клуба "Спадчына" двойчы ганараваў Міколу Савіцкага за актыўны ўдзел у нацыянальным Адраджэнні і змаганні за родную мову памятным медалём, а таксама срэбным пярсцёнкам з выявай "ПАГОНІ" і надпісам "Жыве Беларусь" з занясеннем ягонага імя ў Кнігу гонару "Рупліўцы твае, Беларусь".

Сям'я шчыра дапамагае спадару Міколу ў ягонай рупнасці. З жонкай Глафірай ён пазнаёміўся яшчэ на кафедры Эканамічнага ўніверсітэта, яны аднадумцы, дзеляць і душэўныя страты, і набыткі.

Дачка Насця таксама працуе ў эканоміцы, кандыдат навук. Падаравала бацькам трох цудоўных унучак — Альжбету, Марыльку і Анэльку. І толькі адно засмучае дзеда і бабулю — гімназія, дзе вучацца ўнучкі, — рускамоўная.

Калі я спытала, што змяніў бы спадар Мікола ў сваім жыцці, адгарнуўшы назад два дзесяцігоддзі, то ён прызнаўся: вельмі шкадуе аб сваім познім прыходзе ў беларушчыну. Бо ў Радзіму трэба ўкладаць сэрца і сілы ад нараджэння.

**Людміла ДЗІЦЭВІЧ, сябра Рэспубліканскай рады ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны".**

ВОПРОС-ОТВЕТ

## Достаточно ли водительского удостоверения?

*Правда ли, что в Литве водительские удостоверения нового образца считаются документом, удостоверяющим личность?*

***Валерий СЫС, Брестская область.***

Да, предусматривающие это поправки зарегистрированы в Сейме. Предлагается также сократить число документов, которые водитель должен иметь при себе, и отказаться от требования о предъявлении должностным лицам документа о прохождении обязательного техосмотра. *"Цель поправок — отказаться от избыточных требований, чтобы человеку не нужно было возить с собой или держать в автомобиле целую кипу документов. Технологии быстро идут вперед, поэтому нужно уже сегодня пользоваться их преимуществами. Водительское удостоверение в Литве должно быть документом, равноценным паспорту или личной идентификационной карточке",* — говорится в проекте. Если это будет одобрено, водители для проверки могли бы предъявлять должностным лицам вместо водительского удостоверения личную идентификационную карточку или паспорт, поскольку эти документы дают достаточно информации о данных водителя.

ТАКАЯ ЖИЗНЬ

## Тонны на ладонях



В гастрономе стою в очереди к кассе. Сегодня работает Виктория — очередь движется быстро, но я успеваю в который раз присмотреться к ее работе. Весь приобретаемый товар она перемещает своими руками перед сканером, считывающим стоимость товара, и производит расчет с покупателем. Все кассиры делают это, но Виктория работает, как волшебница. В ее руках товары любого веса невесомы, денежные купюры порхают, как мотыльки, клавиши кассового аппарата звучат, как клавиатура рояля, а расчетный чек она кладет на сдачу с изяществом настоящего фокусника.

Не ради красного словца пишу эти строки. За смену каждый кассир обслуживает 700—800 покупателей. По моей приблизительной оценке, каждый покупатель уносит с собой в среднем около 6 килограммов товара. Значит, до 5 тонн разнокалиберных упаковок за смену ложатся на ладони каждой из этих милых хрупких женщин. А ведь есть еще и весомый довесок — неловкость, несобранность, нерасторопность, грубость а то и откровенное хамство отдельных покупателей...

Когда расчет ведет Виктория, у меня возникает ощущение, что я вполне состоятельный покупатель и денег у меня гораздо больше, чем на самом деле. Как говорится — мелочь, а приятно...

**Михаил ЗАПОЛЬСКИЙ, инженер.**

